# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

12+

21 верасня 2018 года №38 (1221)


# У Вілейцы плануюць пабудаваць 4 дамы на 144 кватэры



«А чаму б на Шанхаі не пабудаваць садок, банк і іншае?». **Павел.**

«Павел, дык ёсць жа садок. А банк хіба горад павінны будаваць?». **Дзмітры.**

«А план пра трэцюю плошчу і пешаходную Савецкую ўжо не актуальны?» **Антон.**

«Дзмітры, а Шанхай што, не горад? А садок адзін на ўвесь раён. Пяць год трэба стаяць, каб трапіць». **Дзмітры.**

«Спрабуюць запіхнуць тое, што не запіхваецца». **Лера.**

«Людзі чакаюць гэтыя дамы. Многія хочуць жыць амаль у цэнтры». **Яўген.**

– пішуць у сацсетках

старонка 2

Выява забяспечаная аддзелам архітэктуры і будаўніцтва Вілейскага райвыканкама.

## У аварыі ў Селішчы загінуў маладзечанец. Магчыма, кіроўцу стала дрэнна за рулём

старонка 4




ISSN 1991–7155
9 771991 715006 38


Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/




| | Наименование и обозначение | Этажность | Количество: Здания | Количество: Квартир: Здания | Количество: Квартир: Всего | Площадь, м²: Застройки: Здания | Площадь, м²: Застройки: Всего | Площадь, м²: Общая: Здания | Площадь, м²: Общая: Всего |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 36–квартирный жилой дом (проектируемый) | 9 | 4 | 36 | 144 | – | – | – | – |
| 2 | Детская площадка (проект.) | – | – | – | – | – | – | – | – |
| 3 | Площадка для отдыха взрослых (проект.) | – | – | – | – | – | – | – | – |
| 4 | Крытая велопарковка (проект.) | – | – | – | – | – | – | – | – |
| 5 | Площадка для чистки ковров (проект.) | – | – | – | – | – | – | – | – |
| 6 | Автопарковка (проектируемая) | – | – | – | – | – | – | – | – |
| 7 | Комбинированная спорт. площадка (проект.) | – | – | – | – | – | – | – | – |
| 8 | Площадка для занятия гимнастикой (проект.) | – | – | – | – | – | – | – | – |
| 9 | Контейнерная площадка (проект.) | – | – | – | – | – | – | – | – |
| 10 | Средняя школа № 1 (существующая) | 3 | 1 | – | – | – | – | – | – |
| 11 | Вилейский государств. колледж (существующий) | 4 | 1 | – | – | – | – | – | – |
| 12 | Стадион (существующий) | 2 | 1 | – | – | – | – | – | – |
| 13 | 18–квартирный жилой дом (существующий) | 3 | 2 | 18 | 36 | – | – | – | – |

Генеральны план новай жылой забудовы ў Вілейцы.

# 144 кватэры, школа, садок, бясплатны стадыён

## Што чакае жыхароў будучых новабудоўляў у Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**Аддзел архітэктуры Вілейскага райвыканкама прапануе нашым чытачам Генеральны план новай жылой забудовы ў Вілейцы.**

Чатыры шматкватэрныя жылыя дамы, кожны ў дзевяць павярхоў, могуць з'явіцца ў Вілейцы на месцы паміж дзяржаўным каледжам, першай школай і вуліцай Кастрычніцкай.

**Пад будаўніцтва выдзелілі ўчастак у пяць гектараў у межах вуліц Вадап'янава, Чапаева і Кастрычніцкай. З боку апошняй прадугледжаны пад'езд да будучай жылой забудовы.**

У новых дзевяціпавярхоўках будзе 144 кватэры. Запланаваныя пляцоўкі для адпачынку дзяцей і дарослых, крытая велапаркоўка, пляцоўка для чысткі дываноў, спартыўныя пляцоўкі, пляцоўка для кантэйнераў паасобнага збору смецця, пешаходныя сцяжыны.

Побач з новымі дамамі будзе школа №1, дзіцячы садок, што, на думку спецыялістаў аддзела архітэктуры, зробіць новы раён зручным. Гэтым будаўніцтвам плануюць палепшыць дэмаграфічную сітуацыю ў горадзе. Новабудоўлі заселяць маладыя сем'і, дзеці будуць хадзіць у бліжэйшыя школы і садкі.

Яшчэ адна зручнасць – сучасны гарадскі стадыён. Як распавялі ў аддзеле архітэктуры, з нядаўняга часу ўваход на стадыён для віляйчан – бясплатны.

Плаціць трэба толькі арганізацыям. Для звычайных віляйчан, якія хочуць пазаймацца спортам, дастаткова адзначыцца ў вахцёра.

Грамадскае абмеркаванне праекта пачалі ад 17 верасня. Яно працягнецца да 12 кастрычніка. Пазнаёміцца з экспазіцыяй праекта можна ў холе Вілейскага райвыканкама па адрасе: Партызанская, 40.

**Прэзентацыю праекта правядуць ад 19 да 21 гадзіны ў зале пасяджэнняў райвыканкама.**

Прапановы можна дасылаць на электронную пошту **arh@vileyka.minsk-region.by** або запісаць у журнале, які будзе знаходзіцца ў холе.

Разам з Генеральным планам аддзел архітэктуры і будаўніцтва Вілейскага райвыканкама прадставіў чытачам «Рэгіянальнай газеты» архітэктурна-планіровачную канцэпцыю новай забудовы.

У дакуменце бачна, як будуць выглядаць будучыя дзевяціпавярхоўкі – дамы-вежы, кожная на адзін пад'езд.

На лесвічнай пляцоўцы размесцяцца па чатыры двухпакаёвыя кватэры рознай плошчы. Самая вялікая – 65,84 квадратнага метра, самая маленькая – 61,66. Будуць таксама кватэры па 63,57 і па 65,16 квадратнага метра.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# На фестывалі ў Вілейцы зладзяць дэфіле ад Тэатра моды

ВІЛЕЙКА

**Арганізатары першага вілейскага экафестывалю «Выбірай і рухайся» працягваюць дапаўняць праграму мерапрыемства.**

Чарговая цікавостка – выступленне аб'яднання «Тэатр моды» Вілейскага дзяржаўнага каледжа.

Моднае дэфіле глядзіце 22 верасня ў 14:00 у скейт-парку.

Аб'яднанне «Тэатр моды» існуе ад 2012 года. Тэатр – гэта, перш за ўсё, сінтэтычны від мастацтва, таму і ў




тэатры моды адбываецца зліццё подыумнага дэфіле з элементамі тэатралізаванага дзеяння.

Аб'яднанне падрыхтавала да паказу цікавыя калекцыі адзення і нумары. Якія? Пабачым разам!

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У завода «Буддэталі» – новы кіраўнік

ВІЛЕЙКА

Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» распавялі ў прыёмнай прадпрыемства.

Новы дырэктар **Аляксандр Лемех** працуе на пасадзе ад 3 верасня. Да гэтага быў інжынерам-тэхнолагам і галоўным тэхнолагам.

Аляксандру Лемеху 34 гады. Родам ён з Вілейкі.

Ранейшы кіраўнік **Сяргей Жук** цяпер працуе старшынёй Назіральнага савета прадпрыемства «Буддэталі».

Менавіта Назіральны савет прызначыў новага дырэктара. Сяргей Жук кіраваў заводам больш за 30 год.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ляснічаму Вілейскага доследнага лясгаса ўручылі ўзнагароду «Ганаровы лесавод»

ВІЛЕЙКА

12 верасня супрацоўнікі Вілейскага доследнага лясгаса ўдзельнічалі ў абласным урачыстым сходзе, прысвечаным Дню работнікаў лесу. Некаторым з іх уручылі ўзнагароды за прафесіяналізм.

А 13 верасня ляснічы першага класа **Мікалай Скулавец** атрымаў нагрудны знак «Ганаровы лесавод» ад Міністэрства лясной гаспадаркі, паведамілі ў лясгасе.

Знак зацвердзілі ў 2002 годзе. З гэтага часу яго ўручаюць работнікам лясной гаспадаркі за захаванне і памнажэнне лясоў Беларусі, сумленнае выкананне працоўных абавязкаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Валожыншчыне з'явіўся новы школьны аўтобус

ВАЛОЖЫН

Ён разлічаны на 23 месцы.

Школьныя аўтобусы падвозяць да школ і адвозяць пасля ўрокаў дамоў вучняў Валожыншчыны. Аўтобус стаў 14-м па ліку.

**Паводле сайта Мінаблвыканкама.**

# У рэгіёне можна зарабіць больш за 4000 рублёў

**Мы выбралі самыя высокааплатныя прапановы з агульнарэспубліканскага банка вакансій для кожнага з раёнаў рэгіёна выхаду «Рэгіянальнай газеты». Абіралі вакансіі, актуальныя цягам апошняга месяца.**


Фота salimnews.com.

**Паводле паведамлення Мінпрацы, сёлета ў верасні ўзровень беспрацоўя складае 0,4% у параўнанні з мінулагоднімі 0,7%.**

Калі ў шасці раёнах лічаныя вакансіі з аплатай вышэй за 1000 рублёў, то на Астравеччыне такіх прапаноў некалькі дзясяткаў – пераважна яны звязаныя з працай на Беларускай АЭС.

### Маладзечна

600 рублёў прапануюць тэрапеўту ў Радашкавічах, галоўнаму бухгалтару будаўнічай фірмы, інжынеру-канструктару «Электрамодуля», байцу жывёлы, кіроўцу, муляру, даяру ў Гарадзілаве, цесляру, швачцы.

Ад 700 рублёў заробяць галоўны ветэрынарны доктар у Заскавічах, загадчык гарадской паліклінікі №1, міліцыянер-кінолаг, бетоншчык, эканаміст сельскагаспадарчай арганізацыі, прадавец-кансультант, галоўны бухгалтар станказавода, манцёр пуці.

Ад 800 прапануюць фармацэўту, машыністу бульдозера, тынкоўшчыку, загадчыку аптэкі, галоўнаму інжынеру будаўнічай арганізацыі.

Ад 911 рублёў абяцаюць машыністу экскаватара, які будзе працаваць вахтавым метадам. 1000 атрымае галоўны ветэрынарны доктар у Селеўцах, галоўны энергетык, станочнік дрэваапрацоўчых станкоў прамысловых прадпрыемстваў раёна. 1200 рублёў абяцаюць кіроўцу, які будзе дастаўляць тавары інтэрнэт-магазіна. Найвышэйшая прапанова, 1300 рублёў, шукае галоўнага бухгалтара ў адно з гарадскіх харчовых прадпрыемстваў.

### Вілейка

На Вілейшчыне 600 рублёў прапануюць галоўным аграному, заатэхнікам, ветдактарам, энергетыкам сельскагаспадарчых арганізацый.

Ад 700 рублёў заробяць слесар па рамонце аўтамабіляў, ахоўнік, кінолаг, інспектар ДПС, міліцыянер. Ад 800 заробіць правізар-рэцэптар, электразваршчык ручной зваркі.

Ад 900 рублёў прапануюць участковым інспектарам. Найвышэйшы заробак у 1000 рублёў абяцаюць маляру.

### Валожын

На Валожыншчыне 650 рублёў прапануюць эканамісту льнокамбіната, ад 700 – галоўнаму інжынеру сельгаспрадпрыемства.

Ад 1200 рублёў прапануюць жылоўшчыку мяса і субпрадуктаў, а таксама абвальшчыку мяса.

### Мядзел

Ад 600 рублёў заробіць ветдоктар, вядучы інжынер-энергетык, прараб, кіроўца і трактарыст.

Ад 700 прапануюць механіку, начальніку вытворча-тэхнічнага аддзела. Самая высокая прапанова – ад 750 рублёў – для начальніка лабараторыі вінакурні.

### Смаргонь

Ад 600 рублёў прапануюць вальшчыку лесу, шэф-повару, выратавальніку-пажарнаму, мантажніку. 700 заробіць цясляр, электрагазазваршчык. 800 рублёў складзе заробак галоўнага інжынера з веданнем нямецкай і англійскай моў, перакладчыка, менеджара па інфармацыйных тэхналогіях, машыніста крана.

900 прапануюць abліцоўшчыку-плітачніку, 1000 – бетоншчыку. Арматуршчык і цясляр можа зарабіць 1300 рублёў, электрагазазваршчык – 1400.

Найвышэйшы заробак у 1700 рублёў прапануюць тынкоўшчыку будаўнічага прадпрыемства.

### Ашмяны

Заробак ад 600 рублёў прапануюць аграному, эканамісту, наладчыку сельскагаспадарчых машын, бактэрыёлагу, дзяржаўнаму інспектару. Ад 700 заробіць галоўны інжынер, маляр, тынкоўшчык, супрацоўнік Дэпартамента аховы МУС. Ад 800 атрымае тэхнік-энергетык, кіроўца, баец жывёлы.

900 абяцаюць памочніку кіраўніка арганізацыі. Найвышэйшы сярод прапаноў заробак будзе ў сістэмнага адміністратара – ад 1000 рублёў.

### Астравец

Вакансіі з прапановай ад 600 рублёў – для кантралёра зварачных работ, электрагазазваршчыка, вадзіцеля пагрузчыка. Ад 800 заробіць бухгалтар, прараб.

Ад 1000 рублёў прапануюць заробак геадэзісту, інжынеру, начальніку лабараторыі, каштарысніку. 1500 прапануюць галоўнаму зваршчыку, мантажніку трубаправодаў, электразваршчыку.

1800 – для галоўнага геадэзіста і галоўнага зваршчыка, эксперта, энергетыка.

2500 прапануюць майстру будаўнічых і мантажных работ, намесніку галоўнага інжынера. Ад 3000 – электразваршчыку ручной зваркі, 3774 – галоўнаму спецыялісту.

Самая высокааплатная прапанова ў рэгіёне – начальніка аддзела таварыства «Атамтэхэкспарт», якому абяцаюць заробак у 4386,15 рубля.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 13.09 | 20.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.1681 | **2.1028** |
| Еўра | 2.5128 | **2.4584** |
| Злоты, 10 | 5.8330 | **5.7267** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.1129 | **3.1371** |
| Грыўня, 100 | 7.7253 | **7.4819** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **12.09** | **19.09** |
| Еўра | 5.5080/2.5350 | **2.4500/2.4800** |
| Долар ЗША | 2.1630/2.1830/ | **2.0920/2.1200** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 12.09 | 19.09 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 18,87 | **18,87** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,98 | **3,90** |
| Сасіскі «Малочныя», 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,20 | **4,40** |
| Селядзец, 1 кг | 3,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,10 | **1,10** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,60 | **1,70** |
| Алей, 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,30 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 1,35 | **1,50** |
| Баклажаны, 1 кг | 1,40 | **1,30** |
| Бульба, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Кабачок, 1 кг | 0,50 | **0,50** |
| Капуста, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,30 | **2,20** |
| Морква, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Памідоры, 1 кг | 0,85 | **0,90** |
| Перац, 1 кг | 1,30 | **1,30** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | **3,40** |
| Грушы, 1 кг | 2,00 | **0,30** |
| Дыня, 1 кг | 1,50 | **1,80** |
| Кавун, 1 кг | 0,69 | **0,69** |
| Ківі, 1 кг | 3,80 | **3,60** |
| Лімоны, 1 кг | 4,50 | **3,90** |
| Нектарыны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Персікі, 1 кг | 1,90 | **–** |
| Яблыкі, 1 кг | 0,50 | **0,80** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

## Журавіны, брусніцы і грыбы – дзе знайшлі радыяцыю

МАЛАДЗЕЧНА
ВІЛЕЙКА
СМАРГОНЬ
МЯДЗЕЛ

**Сезон «ціхага палявання» працягваецца, але не ўся лясная прадукцыя адпавядае гігіенічным нарматывам.**

Пры даследаванні васьмі проб дзікарослых ягад у жніўні-верасні знайшлі перавышэнне ўтрымання радыенуклідаў цэзію-137 у двух пробах.

Не рэкамендуем збіраць журавіны ў лесе каля вёскі Іжа Вілейскага раёна і брусніцы каля Лазаўца Маладзечанскага раёна. У даследаваных узорах удзельная актыўнасць цэзію перавысіла допушчальную норму ў 1,4 раза. А вось 11 проб даследаваных змешаных грыбоў былі «чыстымі» і не перавышалі допушчальную норму. Прадукцыю прывезлі з Мядзельскага, Смаргонскага, Маладзечанскага раёнаў.

Каб быць упэўненымі, што ягады і грыбы не забруджаныя радыеактыўнымі рэчывамі, не ляніцеся праверыць іх у лабараторыі Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. Даследуюць як сырую, так і гатовую дзікарослую прадукцыю бясплатна. Пробы вяртаюць гаспадару.

**Ірына КАЗАКЕВІЧ, доктар-гігіеніст Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**

## На Мядзельшчыне з-за кароткага замыкання загарэўся хлеў

**МЯДЗЕЛ**

Каля пяці раніцы 7 верасня мядзельскім выратавальнікам паведамілі пра пажар у Княгініне.

Калі спецыялісты прыехалі, убачылі, што адкрытым полымем гарэў хлеў. Будынак быў цагляны, электрыфікаваны.

У выніку пажару згарэў увесь дах, цалкам выгаралі некаторыя памяшканні ў хляве. Прычына пажару — кароткае замыканне з-за няспраўнасці праводкі. Хлеў належаў 80-гадовай пенсіянерцы.

— Сёлета ў сакавіку нашы спецыялісты хадзілі па дамах, правяралі стан праводкі, выкананне правілаў пажарнай бяспекі. І менавіта на гэтым двары дзверы зачынілі літаральна «перад носам» у выратавальнікаў, – расказала «Рэгіянальнай газеце» інспектар групы прапаганды і агітацыі Мядзельскага ГРАНС **Ірына Карапецян**. – Калі б нашы спецыялісты праверылі праводку ў хляве, магчыма, пажару б не адбылося.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Аўтамабіль збіў дзесяцігадовую дзяўчынку

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося на перасячэнні завулка Лазневага з вуліцай Багдановіча.

45-гадовы маладзечанец ехаў па вуліцы Багдановіча на аўтамабілі Volkswagen Vento і наехаў на 10-гадовую дзяўчынку, мясцовую жыхарку.

Пяцікласніцу шпіталізавалі. Міліцыя праводзіць праверку здарэння. Вядома, што кіроўца быў цвярозы.

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Пад Ашмянамі выкрылі канал нелегальнай міграцыі

**АШМЯНЫ**

Двух беларусаў і расіяніна затрымалі за арганізацыю канала нелегальнай міграцыі ў краіны Еўрасаюза. Разам з імі ў аўтамабілях ехалі чацвёра в'етнамцаў, якія ў пошуках лепшага жыцця хацелі трапіць у Літву таемнымі сцежкамі ў абыход памежных пунктаў.

Міліцыя Віцебшчыны пры падтрымцы байцоў АМАПа на 127-м кіламетры аўтадарогі Мінск – Ашмяны – мяжа Літвы ноччу 9 верасня затрымала двух жыхароў Оршы і грамадзяніна Расіі.

Вырашаюць пытанне пра арышт арганізатараў нелегальнага бізнесу. Ашмянскі раённы аддзел Следчага камітэта Беларусі распачаў крымінальную справу, праводзяць аператыўна-вышуковыя і следчыя мерапрыемствы па ўстанаўленні іншых удзельнікаў міжнароднай групы. Нелегалы з В'етнама рыхтуюцца панесці адміністрацыйнае пакаранне.

**Паводле SB.BY.**



## На Валожыншчыне скралі каня коштам больш за тысячу рублёў

**ВАЛОЖЫН**

У вёсцы Бабровічы 12 верасня невядомы з незамкнёнага загона цялятніка скраў каня.

Здарэнне адбылося паміж 17 і 21 гадзінамі на агароджанай тэрыторыі фермы «Бабровічы». Пісьмовае паведамленне пра крадзеж паступіла ад дырэктара сельскагаспадарчай установы «Бабровічы».

Кошт скрадзенага – 1050 рублёў.

Крымінальную справу распачалі па артыкуле «Крадзеж».

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**

## Гарэла двухпакаёвая кватэра ў Смаргоні

**СМАРГОНЬ**

Пра пажар паведамілі 11 верасня ў дзесяць вечара.

Гарэла двухпакаёвая кватэра на трэцім паверсе трохпавярховага шматкватэрнага дома.

У выніку пажару агонь пашкодзіў шафу. Папярэдняя прычына – неасцярожнае абыходжанне з агнём.

**Паводле сайта МНС.**



Фота УУС Мінаблвыканкама.

На месцы аварыі.

# У аварыі ля Селішча загінуў маладзечанец

## Следчыя не выключаюць, што кіроўцу стала дрэнна за рулём

**ВІЛЕЙКА**
**МАЛАДЗЕЧНА**

**Дарожнае здарэнне адбылося ў нядзелю, 16 верасня, у 8:20, у светлы час сутак.**

Пра гэта распавяла «Рэгіянальнай газеце» афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**.

Па яе словах, аварыя адбылася на 14-м кіламетры аўтадарогі Маладзечна-Ілья. У вёсцы Селішча 57-гадовы кіроўца на ўласнай машыне «Нісан» з'ехаў у правы кювет, стукнуўся ў дрэва і загінуў на месцы.

Следчыя не выключаюць таго, што кіроўцу магло стаць дрэнна за рулём. Прызначылі шэраг экспертыз, каб высветліць прычыну смерці, тэхнічны стан аўтамабіля, хуткасны рэжым.

Калі вы былі сведкам здарэння, следчыя просяць звярнуцца ў Вілейскі РАСК па тэлефоне 8(01771) 53-0-74.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## На Маладзечаншчыне затрымалі рыбакоў-браканьераў

**МАЛАДЗЕЧНА**

**У верасні на Маладзечаншчыне пачасціліся выпадкі незаконнай лоўлі рыбы з дапамогай рыбалоўных сетак.**

Таму Маладзечанская міжраённая інспекцыя нагадвае пра тое, што парушэнне правілаў вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства цягне адміністрацыйную адказнасць па арт. 15.35 КаАП Рэспублікі Беларусь, за што прадугледжане пакаранне ў выглядзе штрафу да 1225 рублёў з канфіскацыяй прылад здабычы рыбы.

За кожную злоўленую рыбу парушальнік абавязаны пакрыць дзяржаве шкоду, прычыненую навакольнаму асяроддзю ў памеры ад 0,3 да 15 базавых велічынь у залежнасці ад выгляду вылаўленай рыбы. А ў выпадку нанясення шкоды навакольнаму асяроддзю на суму больш за сто базавых велічынь прадугледжаная ўжо крымінальная адказнасць.

9 верасня вечарам на кар'еры недалёка ад вёскі Мароські затрымалі маладзечанца, які трыма сеткамі вылавіў дзесяць плотак і чатыры акуні. Шкода склала 367,5 рубля.

11 верасня вечарам на вадаёме фонду «Палачанскія разлівы» затрымалі жыхара вёскі Літва. Ён вылавіў 14 ліннёў, 13 карасёў, 11 акунёў і адну краснапёрку. Шкода склала амаль 400 рублёў, таму выклікалі следчых з Маладзечна. Па факце праводзяць праверку, магчыма, узбудзяць крымінальную справу.



Фота забяспечанае Васілём ПАЎЛАВЫМ.

Такі ўлоў каштаваў маладзечанцу амаль чатырыста рублёў.

**Васіль ПАЎЛАЎ,**
**Маладзечанская міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслліннага свету.**

## Двое непаўналетніх перабягалі дарогу на чырвоны святлафор і апынуліся ў траўматалогіі

**МАЛАДЗЕЧНА**

У нядзелю, 16 верасня, каля дзевяці вечара ў Маладзечне на Вялікім Гасцінцы 17-гадовы хлопец і 16-гадовая дзяўчына, жыхары Маладзечанскага раёна, перабягалі дарогу на чырвоны сігнал святлафора.

У выніку на іх наехаў 26-гадовы мясцовы жыхар на Volvo S60, які рухаўся на зялёны сігнал святлафора.

Абое пацярпелых з пераломамі шпіталізаваныя.

Кіроўца быў цвярозы.

**Паводле сайта УУС Мінаблвыканкама.**

## У Латыгалі знайшлі больш за дзвесце літраў самагону

**ВІЛЕЙКА**

Самагонны апарат, самагон і брагу знайшоў у адным з хлявоў у Латыгалі ўчастковы міліцыянер.

Падазраюць, што забароненыя знаходкі належаць беспрацоўнаму жыхару вёскі Цюрлі Маладзечанскага раёна.

Апарат і 210 літраў самагону канфіскавалі, 3200 літраў брагі знішчылі.

**Паводле сайта МУС.**

# Як паляваць, каб не здарылася трагедыі

МЯДЗЕЛ

**Працягваецца летне-асенні сезон палявання. Прыхапіўшы ружжо, а то і лодку, паляўнічыя накіроўваюцца ў лес і на ваду.**

Верны сабака, каштоўныя трафеі, горды позірк паляўнічага ды вогнішча з юшкай і запечанай качкай пад вячэрнюю гутарку на беразе возера – што можа быць лепш?

Але каб прыемны вечар на прыродзе не азмрочыла недарэчная выпадковасць, неабходна выконваць меры перасцярогі на паляванні. А менавіта – правільна абыходзіцца са зброяй.

Галоўнае на паляванні – гэта акуратнасць і асцярожнасць. Заўсёды трэба ўлічваць, што, акрамя паляўнічых, ва ўгоддзях могуць знаходзіцца адпачывальнікі, грыбнікі, рыбаловы.

Мядзельская міжраёнfamily інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету звяртае асаблівую ўвагу паляўнічых, што падчас палявання неабходна выконваць правілы бяспекі, пазначаныя ў частцы 12 Правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання.

Згодна з гэтым дакументам, забаронена:

• выкарыстоўваць паляўнічую зброю, якая мае тэхнічныя няспраўнасці;

• ужываць патроны, якія не адпавядаюць дадзеным паляўнічай зброі;

• садзіцца ў машыну і выходзіць з яе з заражданай паляўнічай зброяй;

• даставаць сабраную паляўнічую зброю з аўтамабіля за ствол (ствалы);

• страляць на шум, шоргат па цэлі, якая дрэнна бачная, у тумане, у моцны снегапад, у прыцемках, супраць сонца і пры іншых умовах дрэннай бачнасці. Нельга таксама страляць па птушцы, а таксама па птушцы, якая ўзлятае на адлегласці ніжэй за 2,5 метра ад зямлі ва ўмовах абмежаванай бачнасці;

• страляць і знаходзіцца з зараджанай паляўнічай зброяй на адлегласці менш за 200 метраў ад крайняга будынка населенага пункта;

• страляць у напрамку людзей, населеных пунктаў, сельскагаспадарчых жывёл, транспартных сродкаў з агнястрэльнай гладкаствольнай паляўнічай зброі на адлегласці менш за 500 метраў да іх і з агнястрэльнай паляўнічай зброі з наразным ствалом – менш за 2 кіламетры;

• накіроўваць паляўнічую зброю, у тым ліку незараджаную, на чалавека, хатніх жывёл або месца іх размяшчэння;

• без неабходнасці страляць, узводзіць курок знешнекурковай зброі або здымаць з засцерагальніка ўнутрыкурковую зброю;

• страляць з лодкі праз весляроў або іншых паляўнічых, якія знаходзяцца ў лодцы.

Практыка паказвае, што невыкананне гэтых патрабаванняў з'яўляецца асноўнай прычынай няшчасных выпадкаў на паляванні, у тым ліку і гібелі людзей.

За парушэнне правілаў бяспекі палявання (у выпадку, калі іх парушэнне не пацягне за сабой наступстваў) вінаватаму пагражае штраф у памеры да 980 рублёў або пазбаўленне права палявання тэрмінам ад трох месяцаў да трох гадоў.

**Раман ЛЕСІН, намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы раслiннага і жывёльнага свету.**



Фота vladtime.ru.

**Каб паляванне не скончылася трагічна, выконвайце правілы бяспекі.**

# Тры спосабы далучыцца да прыроды

## Жывая арка, елка ў кадцы, адпачынак у доме паляўнічага...

**Ці ведалі вы, што на Маладзечаншчыне можна схадзіць на экскурсію ў дэндрапарк, пажыць у доме паляўнічага, а зімой завітаць да Дзеда Мароза?**

Любавацца раскошай прыроды і дыхаць чыстым паветрам – адзін з лепшых спосабаў палепшыць сабе настрой. У вашым жыцці не хапае прыгажосці? Жадаеце добраўпарадкаваць двор ці сад? Расказваем, як зрабіць гэта лёгка і танна.

Менавіта ў Маладзечанскім лясгасе вы можаце не толькі набыць дрэва, куст ці кветку, але і атрымаць кансультацыю па іх доглядзе.

Лясгас багаты на дэкаратыўныя дрэвы і кусты. У цяпліцах вырошчваюць лісцёвыя і хвойныя пароды. Вас чакае 74 найменні раслінаў, з якімі можна азнаёміцца на сайце лясгаса **molodechnoleshoz.by**.

### Якія расліны можна набыць у лясгасе

На імправізаванай пляцоўцы ля цяпліц людзі могуць паглядзець, як будзе выглядаць расліна праз пэўны час.

Калі вы хочаце не толькі зеляніну, але і прыгожыя кветкі, вас парадуюць фарзіцыя, шыпшына, спірэя і клемаціс. Апошні набываюць для стварэння «жывой» аркі.

З пладовых раслінаў прапануюць айву, каліну, глог.

Той, хто набудзе і пасадзіць бружмель (жимолость), ужо ў канцы мая зможа паласавацца ягадамі, смак якіх падобны да чарніцаў.

Барбарыс часта выкарыстоўваюць для стварэння жывой агароджы. Манчжурскі арэх, што нагадвае смакам грэцкі, бяруць для стварэння разгалістага ценю. Пад ім можна паставіць лаўкі і атрымліваць асалоду ад атмасферы.

Попытам карыстаюцца хвойныя – самшыт, туя, дэкаратыўныя кусты. Ёсць сасна веймутава. Ад звычайнай яна адрозніваецца гладкім ствалом і мякчэйшымі іголкамі.

Тут ёсць нават пузыраплоднік – кусты, якія выкарыстоўваюць як агароджу. Часта яго высаджваюць ля школ.

Ёсць 30 відаў бэзу. Пакуль расліны маленькія, але ў планах – зрабіць сад ці на тэрыторыі лясгаса, ці ў дэндрапарку – помніку мясцовага значэння ў вёсцы Верадова.

– Квітнеючая сакура ў Японіі, а ў нас будзе бэз, – параўноўвае намеснік дырэктара па ідэалагічнай рабоце Маладзечанскага лясгаса **Віталь Дземеш**.

### Рыхтуюць елкі да Новага года

Да зімы ўжо рыхтуюць елкі ў кадках.

– Некаторыя людзі не хочуць звычайную елку, якую трэба выкідваць адразу пасля Новага года. А хвойнае дрэва ў кадцы расце марудна, але пастаянна, яго можна падарыць ці высадзіць у адкрыты грунт.

Елкі, з якіх складаюць вялізнае навагодняе дрэва на Цэнтральнай плошчы, купляюць менавіта тут.

Рыхтуюць і блакітныя елкі.

Расліны набывае шмат мінскіх арганізацый. Карыстаецца попытам прадукцыя лясгаса і ў расіян. Яны аддаюць перавагу двухгадовым саджанцам сасны, якія выкарыстоўваюць для аднаўлення лясоў.

### Якія паслугі прапаноўвае лясгас

У залежнасці ад сезона, людзі набываюць тут расліны, мёд, бярозавы сок, навагоднія елкі, дровы, піламатэрыялы.

У лясгас прыходзяць бацькі з дзеткамі на «экскурсію» – паглядзець на расліны, пасядзець у альтанцы. Гадавальнік можа наведаць любы ахвотны.

– Мы павінны не проста зарабіць, займаемся і экалагічным выхаваннем насельніцтва, таму пасадзілі такі міні-дэндрапарк. У таго, хто ўбачыць прыгажосць, рука не падымецца зламаць расліну, – упэўнены Дземеш.

Падобныя гадавальнікі ёсць таксама ў кожным лясніцтве, напрыклад, у Гарадоцкім ці Лебедзеўскім.

Цэны – адны з самы танных. Да прыкладу, трохгадовую туя можна набыць за шэсць рублёў – яна расце па 20 сантыметраў штогод. Двухгадовы самшыт каштуе пяць.



Фота molodechnoleshoz.by.

**Больш за дваццаць плямістых аленяў жыве ў вальеры ў Верадове.**

### Дзе адкрываюць рэзідэнцыю Дзеда Мароза

Прыкладна ў 15 кіламетрах ад Маладзечна, у Верадове, працуе гасцінічны комплекс «Дом паляўнічага». Зімой там можна пакатацца на лыжах і снегаходзе. Да Новага года звычайна адкрываюць рэзідэнцыю Дзеда Мароза. Сёлета ў сакавіку арганізавалі провады зімы – частавалі наведнікаў юшкай і салдацкай кашай, запрашалі катацца на горках і лыжах.

Калі дазволіць надвор'е, гэтай зімой снежныя забавы хочуць паўтарыць. Да гэтага ж плануюць зрабіць каток.

Летам тут можна гуляць у валейбол і тэніс, смажыць шашлыкі на беразе возера, лавіць рыбу, купацца ў басейне і наведваць лазню. А потым заставацца на ноч у камфортных драўляных доміках адзін на адзін з прыродай. «Дом паляўнічага» наведваюць і вялікія кампаніі. Тут адпачываюць з сябрамі, адзначаюць вяселлі ці збіраюцца з калегамі.

Тым, хто любіць паляваць, у залежнасці ад сезона прапануюць водна-балотных птушак, казулю, лася, зайца, бабра. Ёсць магчымасць узяць арэндную стрэльбу. Хутка адкрыюць загоннае паляванне.

# Прыбіралі берагі Сарачанскіх азёр

АСТРАВЕЦ

У межах акцыі «Зробім» актывісты Астравеччыны прыбіралі берагі азёр Каймінна і Тумскае. Да прыборкі далучыліся настаўнікі і вучні Спондаўскай школы.

Спачатку прыбіралі на сушы. Гэтыя ўчасткі берага прыбіраюць трэці год. Арганізатары спадзяюцца, што іх праца паўплывае на культуру адпачывальнікаў, аднак пакуль змяненняў не назіраюць.

Калі берагі азёр, верагодна, засмечваюць турысты, то бераг у вёсцы Гаршэвічы мала чым адрозніваецца. Мясцовыя жыхары сярод гэтага смецця жывуць.

Валанцёры хутка напоўнілі больш за 20 120- і 240-літровых пакетаў смеццем. Неаднаразовыя просьбы да дырэкцыі заказніка «Сарачанскія азёры» і да сельвыканкама аб навядзенні парадку не прыносяць выніку. Атрымліваецца, што ніхто не можа знайсці ўправу на тых, хто смеціць.

Удзельнікі змаглі арганізаваць запланаваны маршрут «экасплаву», праехалі на байдарках па азёрах Губеза і Ёдзі.

Пакеты для смецця закончыліся яшчэ ў час сухапутнай прыборкі, таму смецце складвалі на дно байдаркі. Добра, што лілей было больш, чым пластыкавых бутэлек, але байдарку мы напоўнілі хутка.

Мы запрашаем ахвотных далучыцца да «экасплаваў», падчас якіх вы навучыцеся кіраваць байдаркай, зможаце палюбавацца найпрагажэйшай прыродай і зробіце свой унёсак у навядзенні парадку на зямлі.

По пытаннях удзелу звяртайцеся па тэлефоне (8-029) **651-95-01**, Аляксандр.

**Аляксандр ДАШКЕВІЧ,**
**Астравец.**




Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

У акцыі ўдзельнічала 15 чалавек. Сфатаграфавацца ўсіх так і не атрымалася – пакуль некаторыя пазіравалі, іншыя працягвалі прыборку.


Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Падчас чаявання ў рэдакцыі для гасцей выступіў тэхнічны рэдактар лідар гурта «Sumarok» Ігар Палынскі.


Фота Ігара ПАЛЫНСКАГА.

8 «Б» клас маладзечанскай школы №8 атрымаў у падзяку за актыўнасць вазон, які будзе стаяць у класе.

# Маладзечанцы прыбралі сквер, у якім няма сметніц

МАЛАДЗЕЧНА

**У другі раз рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты» арганізавала прыборку ў межах акцыі «Зробім» у скверы, размешчаным за касцёлам па Вялікім Гасцінцы. І хаця ў час акцыі ліў дождж, удзельнікі па дамах не разышліся.**

15 верасня на месцы сабралася 15 ахвотнікаў зрабіць горад чысцейшым. Самай маленькай удзельніцай акцыі стала дашкольніца **Кіра**, якую прывяла мама **Валянціна Сідоркіна**. Да арганізатараў далучыўся гараджанін **Руслан Кісялёў**, а класны кіраўнік 8 «Б» класа сярэдняй школы №8 **Святлана Савіцкая** прывяла вучняў.

Прыборка заняла крыху больш за гадзіну. На тэрыторыі пераважна сустракаліся пластыкавыя і шкляныя бутэлькі, апошнія часам разбітыя. Былі розныя ўпакоўкі і вельмі шмат акуркаў.

Школьнікі вырашылі збіраць асобна закруткі ад пластыкавых бутэлек – сабралася некалькі дзясяткаў. Арганізатары іх памылі і адклалі, каб здаць на перапрацоўку менавіта гэты матэрыял.

За час акцыі сабралі каля дзесяці 120-літровых пакетаў смецця і яшчэ некалькі 60-літровых.

**Удзельнікі сышліся на меркаванні, што праблема засмечанасці сквера не толькі ў недахопе выхаванасці. Але і ў тым, што ў скверы проста няма сметніц.**

А несці акурак да гандлёвага цэнтра ці дарогі будзе толькі чалавек з высокім узроўнем разумення, для чаго гэта трэба.

Пасля прыборкі арганізатары запрасілі ўдзельнікаў у рэдакцыю на чаяванне. Тут мы пазнаёміліся і падзяліліся ўражаннямі ад акцыі. Школьнікам на памяць работнікі рэдакцыі ўручылі вазон, які цяпер упрыгожыць клас.

Класны кіраўнік 8 «Б» **Святлана Савіцкая** расказала, што пра акцыю падказала калега. Настаўніца падзялілася меркаваннем, што ў горадзе стала брудней, чым некалькі год таму. На яе думку, сітуацыю маглі б выправіць штрафы – калі б за смецце каралі «рублём».

Руслан Кісялёў лічыць, што пачаць варта з больш мяккіх мер – паставіць сметніцы. Калі ты бачыш перад сабой сметніцу, то, хутчэй за ўсё, данясеш паперку ці бутэльку да яе.

**Даша Раманоўская**, **Артур Снапко**, **Янка Гарошка** сказалі, што акцыя для іх прайшла весела. **Юля Шумская** наведвае касцёл, за якім размешчаны сквер, і палічыла важным прыбраць каля яго. **Віка Дземенева** і **Кірыл Івушкін** адчулі, што сапраўды дапамагаюць гораду.

**Кірыл заўважыў, як прахожыя звярталі ўвагу на іх занятак. «Хацелася, каб да нас далучыліся», – сказаў васьмікласнік.**

**Валера Ваўчок** расказаў: калі адпачываў у спартыўным летніку, яны прыбіралі ў Відзах. Таму задаволены, што цяпер дапамог роднаму гораду стаць чысцейшым.

Пасля чаю для гасцей спявалі работнікі «РГ» – тэхнічны рэдактар **Ігар Палынскі** і карэспандэнт **Аксана Ярашонак**.

**Аддзел інфармацыі.**




Праз пяць хвілін Барыс Донін з артысткамі Наталляй Скарынкай (злева), Настассяй Макарэвіч (справа) і Кацярынай Панядзько пойдзе танцаваць на сцэну.




Мінскі абласны драматычны тэатр падрыхтаваўся да дня адчыненых дзвярэй.



Вядучыя Алег Чэчанеў і Кацярына Шчэрбач праводзяць аўкцыён сувеніраў, разыгрываюць сертыфікаты і падарункі.



Дзяніс Фешчанка іграе на гітары і спявае вясёлую песню.

# У Маладзечне зладзілі сустрэчу, прымеркаваную да адкрыцця 28 тэатральнага сезона

МАЛАДЗЕЧНА

**Дзень адчыненых дзвярэй у Мінскім абласным драматычным тэатры правялі 12 верасня.**

Забаўляльная праграма «Тэатральная сустрэча» з удзелам артыстаў, распродаж ільготных абанементаў, аўкцыён сувеніраў, бяспройгрышная латарэя, розыгрыш запрашальных білетаў на спектаклі – усё гэта было на імпрэзе.

На пытанні адказвалі хутка, па сертыфікаты выходзілі на сцэну. «Якое імя ў галоўнай актрысы спектакля «Парася, якое спявае»?, «Назавіце імя гераіні спектакля «Камедыя».

За адказ на пытанне «У якім годзе паставілі спектакль «Камедыя» глядач атрымаў абанемент на дзесяць наведванняў. На распродажы ён каштаваў 50 рублёў.

Правялі аўкцыён сувеніраў. Прапанавалі гледачам уявіць, колькі б яны змаглі аддаць за пэўную рэч. Напрыклад, яўрэйскі капялюш – кіпа – «абышоўся» адной з глядачак у восем рублёў.

Тэатральны «капуснік» зладзілі адразу пасля розыгрышаў. Сярод удзельнікаў сустрэчы – **Алег Чэчанеў**, **Дзяніс Фешчанка**, **Барыс Донін**. Артысты спявалі, танцавалі, ігралі на гітары, рабілі тэатралізаваныя замалёўкі. Да прыкладу, паставілі на сцэну тазікі і з анучамі ў руках пад хуткую музыку «мылі» падлогу.

Першы спектакль сезона «Камедыя» адбыўся ўжо праз тыдзень. Падрабязнасці чытайце ў наступным нумары.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота аўтара.**

# Дзённік мамы другакласніцы: а ў другім класе яшчэ лягчэй, чым у першым



**Ці сапраўды гэта так, я як мама яшчэ не вызначылася. А вось Варвара перакананая: другі клас – лягчэйшы. Такую выснову яна зрабіла за тры тыдні, што паспела правучыцца ў сваім 2 «Б».**

Трэба сказаць, што навучальны год для Варвары пачаўся яшчэ ў канцы жніўня. Дзяўчынкі з іх класа ўсе дружна мусілі ісці ў школу, каб успомніць свой танец коцікаў. Аўтарытэтная камісія зацвердзіла нумар да паказу на раённай педагагічнай канферэнцыі.

Першага верасня мы схадзілі на лінейку. Паглядзелі на яркія мастацкія нумары, паслухалі добрыя словы ад дырэктара, намеснікаў, пафатаграфаваліся каля фотазон. Іх заўсёды ў школе робяць вельмі прыгожымі. Варвара асабліва «зацаніла» школьную парту з глобусам і двума вялікімі, амаль у рост другакласніцы, алоўкамі, што сталі побач.

Адна мама дзівілася, якія выхаваныя ў нашай школе дзеці. Так акуратна да фотазон адносяцца. Іншыя ўжо б даўно глобус па падлозе пакацілі.

Адна з праблем, што паўстала перад бацькамі другакласнікаў, – у нашых дзетак няма прадлёнкі. Але, як аказалася, праблема для бацькоў большая, чым для саміх дзяцей.

– А мне, мама, падабаецца, што прадлёнкі няма, – неяк выдала Варвара. – Столькі часу вольнага: і пагуляць можна на школьным двары, і ў буфет схадзіць. Там салацікі смачныя даюць.

Аднак зусім адчуць другакласніцы «вольніцу» мы не даём. Два разы на тыдзень – заняткі харэаграфіяй, столькі ж – ігра на дудачцы ў маладзечанскага музыкі **Сяргея Ярука**. Ад кастрычніка танцы будуць яшчэ і па суботах. А як вывучыць усе ноты, будзе і ансамбль. Пакуль ведае толькі дзве: сі і ля.

Калі бацькоў няма дома, наша Вара без праблем застаецца дома адна. А вось хадзіць са школы да дома, пакуль ніяк. І нават не пераход двух ажыўленых дарог яе бянтэжыць. Вельмі ўжо падобныя дамы ў гарадскіх дварах. Раптам трапіць не туды.

**Літары за лета не забыліся. Нават навучыліся акуратна пісаць. Часам з трыма памылкамі ў адным слове. Але акуратна. Прачыталі тры кніжкі са спіса на лета.**

Дзеці падгадаваліся, сталі больш адказнымі, менш губляюць рэчаў. Але мы сваю балетку ўжо «пасеялі». Дзякуй добрай настаўніцы, што «выкінула» яе ў вайбер.

А яшчэ ў нас у класе з'явілася новая дзяўчынка, Дамініка. І цяпер наш 2 «Б» – гэта 15 хлопчыкаў і 16 дзяўчынак.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Варвара на адной з фотазон у школе.

# Скульптура мастака з Мядзельшчыны ўпрыгожыла арт-парк у Польшчы

МЯДЗЕЛ

**Днямі скульптар Юрась Камандзірчык з курортнага пасёлка Нарач вярнуўся з Польшчы.**

Тут, у горадзе Вейхерова, што каля Гданьска, гарадскія ўлады зладзілі міжнародны мастацка-разьбярскі пленэр. Творы скульптараў з розных краін упрыгожылі арт-парк адпачынку ў Вейхерове. А скульптурная кампазіцыя Камандзірчыка паўстала якраз пры ўваходзе ў парк.



Юрась Камандзірчык са сваёй працай.

## Мастака з Мядзельшчыны заваражыла польская прырода

Цэлы тыдзень, ад 9 да 17 верасня, скульптары і мастакі з Літвы, Беларусі, Таджыкістана, Расіі, Украіны, Германіі стваралі свае скульптуры для гарадскога парку адпачынку ў Вейхерове. Нягледзячы на непасрэдную працу, знайшлі час і на знаёмства з горадам, і на разнастайныя спаборніцтвы: напрыклад разьбярства на хуткасць.

Вейхерова – невялікі горад. Тут жыве крыху менш за 50 тысяч чалавек. Горад уваходзіць у Паморскае ваяводства і лічыцца адным з самых прыгожых гарадоў Памор'я. Як мастак Юрась не мог не заўважыць старажытныя будынкі храмаў 17-18 стагоддзяў і маляўнічыя краявіды. Сам горад размешчаны на прыгожым узгорку – Кальварыі. Побач шмат лясоў, а праз горад цячэ рака Рэда.

## На пленэры – кожны сам за сябе

На памяць пра сябе і сваю радзіму польскаму гораду і яго жыхарам Юрась Камандзірчык пакінуў скульптурную кампазіцыю, прысвечаную мастакам і мастацтву. Ледзь паспеў за адведзены час, прызнаецца майстар. Нават сумняваўся, што атрымаецца, бо пленэр – гэта не камандная праца, кажа скульптар. Тут кожны працуе сам за сябе. Разлічваць на чыюсьці дапамогу не даводзіцца.

Аднак такое мерапрыемства ў творчым жыцці скульптара – далёка не першае. І набыты досвед дапамог аўтару скончыць працу перад ад'ездам у Беларусь.

## Пра карысны досвед і новыя знаёмствы

Падобныя пленэры акрамя карыснага досведу нясуць і новыя знаёмствы, і сустрэчы са старымі сябрамі-калегамі, з якімі на творчых мерапрыемствах сустракаліся неаднойчы.

**Сёлета многіх удзельнікаў і арганізатараў пленэру ўразіла харкаўчанка Вікторыя Папова. Мастачка не толькі малявала, стварала лялек з тканіны, а яшчэ нараўне з калегамі-мужчынамі працавала з пілой.**



Выстава скульптурных кампазіцый.

## Камандзірчыкаў след у Вейхерове

18 верасня разьбяр прыехаў дамоў, на Мядзельшчыну. А наведнікаў арт-парку адпачынку ў Вейхерове цяпер будзе сустракаць драўляная Камандзірчыкава басэтля – так у гутарковай мове называюць кантрабас. Скульптура незвычайная тым, што надзеленая рысамі жанчыны.

Побач з басэтляй – драўляны надпіс – art-park. Уверсе размясціўся анёл з палітрай фарбаў і пэндзлем. Скульптуры нібы запрашаюць увайсці ў парк і далучыцца да свету мастацтва.

Мясцовыя жыхары ўжо ўпадабалі твор нашага земляка для сямейных фотаздымкаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

**Фотаздымкі забяспечаныя Юрасём КАМАНДЗІРЧЫКАМ.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ. З ЛЮДСКІХ ГІСТОРЫЙ

# Як жылі ў лазні і елі нямецкую вячэру

## Успаміны жыхара Вілейшчыны пра Першую і Другую сусветныя войны

ВІЛЕЙКА

**Прапаную чытачам успаміны свайго аднавяскоўца Мікалая Вcase Варановіча, запісаныя ў вёсцы Касічы Рускасельскага сельсавета Вілейскага раёна 17 жніўня 1976 года.**



Падчас Першай сусветнай Аляксандр Керанскі наведвае мясціны рэгіёна. На фотаздымку – ён пад Крэвам.

Фота з архіва «Рэгіянальнай газеты».

### Аб прыгодах на Першай сусветнай

«Гэта было ўлетку 1915 года. Мяне і маіх аднагодак з нашай вёскі ўзялі рускія і адправілі пад Ліду капаць акопы. Напэўна, спадзяваліся, што давядзецца адступаць. Праз дзень **Ілюк Варановіч** (гэта твой дзед) уцёк адтуль, бо ў яго жонка маладая, **Наста**, засталася дома з дзецьмі.

А нам давялося праз нейкі час адступіць, бо немец ужо блізка падышоў. Мы неяк дабраліся да Маладзечна, а там ужо немцы. Пайшлі мы пяшком да мястэчка Маркава. Адтуль накіраваліся на Гануту.

Ідзём па лесе і трапляем да вогнішча. А там немцы вячэру вараць у кацялку з салам. Неяк на польска-беларускай мове тлумачым, што мы тутэйшыя і заблукалі. Яны па-польску запрашаюць нас прысесці на вячэру і крыху пачакаць. Селі мы, а потым я пайшоў да ракі, каб вады набраць. Бачу, ёсць бліскучая драцінка праз раку нацягнутая. Мы ўжо блізка ад сваёй вёскі, а дома дрот заўсёды спатрэбіцца. Адламаў я кавалак дроту і скруціў яго на руку ў скрутку. Прыходжу да вогнішча. Нашы сядзяць, а немцаў няма.

– А дзе немцы? – пытаюся.

Пайшлі некуды. А што ты прынёс?

Во дрот вісеў на кустах, дык кавалак адламаў. Дома спатрэбіцца.

– Ты ж яго не вешаў. Чаго ўзяў чужое!? Кідай ты хутчэй дрот, бо немцы, як убачаць, што ты ім сувязь парваў, дык цябе заб'юць і нас расстраляюць. Яны, відаць, спужаліся, што ў іх сувязь знікла, і ўцяклі.

– А што з вячэрай рабіць будзем? Сала ўжо зварылася і хлеб нейкі ёсць.

– Што ўжо будзе, тое будзе. Хай Бог нас грэшных беражэ. Будзем вячэраць і без немцаў.

Мы згаладаліся, як тыя сабакі, хуценька накінуліся на тое сала, з'елі яго ды падаліся дамоў праз Гануту. Пашанцавала нам, што немцы не вярнуліся.

Прыйшлі дамоў. А праз нейкі час мяне забралі ў Рускую армію. Павучылі трохі ў Сімбірску ды адправілі на фронт у Румынію. Там былі чатыры нашы рускія корпусы ў цэнтры, а па баках – румынскія войскі, нашы саюзнікі.

**Наступаем ціха без бою, а немцаў усё няма і няма. А пасля даведаліся, што ззаду нас румыны немцам свае пазіцыі здалі. Дык мы тады двое сутак уцякалі, каб не трапіць у палон. Выйшлі з акружэння, і фронт стабілізаваўся. Немцы спрабавалі нас адкінуць, а мы – іх. А пасля спыніліся ў акопах. Толькі крыху пастраляем мы іх, а яны нас, і ўсё.**

Бывала, радавы салдат ходзіць, дык па ім ніхто не страляе, а як афіцэр высуне галаву, дык і заб'юць. Таксама забівалі і цывільных, бо хто з грамадзянскіх пойдзе на перадавую, як не начальства. Такая была вайна.

**Аднойчы да нас на фронт прыехаў Аляксандр Керанскі. Тады мы даведаліся ад яго, што рэвалюцыя адбылася. Некаторыя афіцэры, якія баяліся салдат, паўцякалі ў іншыя вайсковыя часці.**

У Першую сусветную вайну Касічы згарэлі. Мая жонка Вольга жыла ў лазні. Пасля той вайны я ўжо ў сярэдзіне вёскі не стаў будавацца, а на краі, на волі. Навазіў дрэва, зрубіў хату з сасновых бярвенняў. Сыноў у мяне было чацвёра – **Сашка**, **Коля**, **Іван**, **Толя** і дачка **Клаўдзя**. Пасля Другой вайны кожнаму сыну дапамагаў будавацца.

### Падчас Другой сусветнай выратавалі немцы

У сакавіку 1944-га немцы з украінцамі-самахоўцамі правялі карную аперацыю супраць жыхароў вёскі Касічы. Спалілі вёску і забралі некалькі чалавек. Прычынай стала забойства днём раней чатырох немцаў з гарнізона ў Нарочы.

Партызаны тады развязалі бой у нашай вёсцы. Дык вось нашых жыхароў расстрэльвалі не столькі немцы, колькі ўкраінцы. Яны ж застрэлілі **Пескавых – Юліся** з жонкай **Вольгай**.

За мяне заступіўся нямецкі афіцэр, які сказаў мне, каб я ішоў і раскідаў абгарэлыя бярвенні з вуліцы, каб машына магла праехаць. Я сцягнуў тыя бярвенні і пытаюся ў афіцэра: «Куды мне ісці?» – «Ідзі за вёску і схавайся» – адказаў ён.

**Я пайшоў у лазню, а там людзей шмат і нават самагонка гоніцца. «Не, мы тут не будзем» – вырашылі мы з жонкай і пайшлі ў зрубчык хавацца. Але ўсё роўна нас знайшлі.**

Мяне і **Валодзю Юркава Дземідовіча** ўзялі і завезлі ў Вілейку, у турму. Адтуль праз пару месяцаў як невольнікаў завезлі на станцыю Параф'янава на працу. Прымусілі нас араць поле, засяваць яго, а потым з немцам кароў пасвіць. Двое нас і немец.

Яшчэ адзін работнік быў з-пад Смаленска. Ён быў сапраўдны п'яніца. Нап'ецца і спіць. Адзін раз ён убачыў, як немцы пераганялі самагон у спірт. Дык падышоў да апарата і дзве чаркі выпіў, пакуль не паваліўся. А немцы з яго смяюцца.

У ліпені 1944 года мужчын пабралі ў чырвонае войска. Мяне і маіх аднагодак не бралі, бо каля 60 гадоў мелі. **Мікалай Тодарчыкаў Барыс** стаў фінансавым агентам у Рускасельскім сельсавеце. Ён сказаў мне і маім аднагодкам **Паўлюку**, **Валодзю Юркавым Дземідовічам**, што трэба ісці ў Куранецкі раённы ваенкамат. Будуць забіраць у армію. Мы прыйшлі ў Куранец, але ў ваенкамат не ідзём. Я пайшоў у разведку. Сустрэў каля ваенкамата аднагодка з Заброддзя, а ён мне кажа: «Хто туды зайдзіць, дык і бяруць. Але наш год у армію не прызываюць. Я іду дамоў. Думаю, а чаго тады мне ісці. Павесткі мне няма. А наказ праз Мікалая – гэта не дакумент. Я сказаў сваім равеснікам з Касічоў: «Вы, як хочаце, а я пайду дамоў». І яны пайшлі за мной. А Мікалай Тодарчыкаў, як пайшоў у ваенкамат, дык на Урал, на завод, завезлі. Дадому ён чамусьці не вярнуўся. Бабнік ён быў. Можа, да нейкай бабы прыбіўся ці з нейкай бабай некуды ўцёк. Тады пасля вайны мужчын не хапала».

**Сымон БАРЫС, Мінск.**

● КАЛЯНДАР

21 ВЕРАСНЯ

**1918.** 100 гадоў з дня нараджэння **Фёдара Янкоўскага**, мовазнаўца і пісьменніка, заслужанага дзеяча навукі Беларусі. У 1948 годзе скончыў філалагічны факультэт Гродзенскага педагагічнага інстытута. Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Радашкавіцкай сярэдняй школе, вучыўся ў аспірантуры пры Мінскім педагагічным інстытуце. Пасля выкладчык беларускай мовы, загадчык, прафесар кафедры беларускага мовазнаўства гэтага інстытута. Доктар філалагічных навук. Памёр 13 лістапада 1989 года.

22 ВЕРАСНЯ

**1903.** 115 гадоў з дня нараджэння **Хвядоса Шынклера**, беларускага празаіка, драматурга і сцэнарыста. Нарадзіўся ў Заслаўі. Загінуў 25 кастрычніка 1942 на фронце пад Сталінградам.

23 ВЕРАСНЯ

**100 гадоў** з дня нараджэння **Аркадзя Маўзона** (сапр. Маўшэнзон Арон Іосіфавіч) (1918 – 1977), беларускага драматурга. Па яго сцэнарыях пастаўлены кінафільмы «Канстанцін Заслонаў» (1949, у 1950 фільм атрымаў Дзяржаўную прэмію СССР), «Зялёныя агні» (1956), «Напярэдадні – круты паварот» (1960).

**1910.** Нарадзіўся **Юльян Сергіевіч** (вёска Юраўшчына, цяпер Маладзечанскі раён), паэт, мастак.

25 ВЕРАСНЯ

**105 гадоў** з дня нараджэння **Сяргея Грахоўскага** (1913 – 2002), беларускага паэта, празаіка, перакладчыка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

**1895.** Нарадзілася **Ванда Лявіцкая** (па мужу Лёсік, Радашкавічы), беларуская пісьменніца, педагог. Яна была адзінай дачкой пісьменніка Ядвігіна Ш. (Антона Лявіцкага). У 1917 стала жонкай палітыка, вучонага і пісьменніка Язэпа Лёсіка. Займалася літаратурнай творчасцю. Калі ў 1930-х Лёсіка арыштавалі па справе «Саюза вызвалення Беларусі», як толькі стала магчымым, паехала да высланага мужа, з 1933 дзяліла з ім ссылку. Напісала ўспаміны пра бацьку. Дзеці Лёсікаў – Люцыя, Алеся і Юры – у Беларусь не вярнуліся. Памерла 8 снежня 1968 года ў пас. Татарка Стаўрапольскага краю.

27 ВЕРАСНЯ

**485 гадоў** з дня нараджэння **Стэфана Баторыя** (1533 – 1586), дзяржаўнага дзеяча, палкаводца Рэчы Паспалітай, караля польскага і вялікага князя літоўскага.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

● НАМ ПІШУЦЬ

# «Не хачу пладзіць галечу!»

## Я застаўся халасцяком, таму што не змог зарабіць на сям'ю

**Сваёй жыццёвай гісторыяй падзяліўся чытач, які пажадаў застацца ананімным.**

«Мне ўжо пераваліла за 40. У такім узросце ў многіх ужо дарослыя дзеці, кватэра, машына. Я не жанаты і ніколі жанатым не быў. У маладосці не гатовы быў ні маральна, ні матэрыяльна стварыць і ўтрымліваць сям'ю. Думаў, спачатку трэба «ўстаць на ногі», стаць матэрыяльна незалежным, набыць жыллё, а потым ужо ствараць сям'ю. Але «на ногі» так і не ўстаў, жыллё не прыдбаў.

Я звычайны мужчына, зорак з неба не хапаю, жыву ў райцэнтры, зарплата невялікая.

### Дзе ўзяць грошы ў райцэнтры?

Ну, не ўмею я «круціцца», «рабіць грошы», а зарабіць законным шляхам сабе на пакупку або пабудову жылля не атрымалася. Нават калі будаваць жыллё з дапамогай ільготных крэдытаў, то штомесяц трэба плаціць усю маю зарплату, а можа, і больш. А яшчэ ж трэба рабіць рамонт, таму што кватэры здаюць з голымі сценамі, купляць мэблю, плаціць за камунальныя паслугі, ды і есці трэба хаця б пару разоў на дзень.

> А дзе на гэта ўзяць грошы? У мяне няма забяспечаных сваякоў, няма «касматай рукі», жыву з маці-пенсіянеркай.

Першы час такое становішча рэчаў мяне прыгнятала. Быццам бы недурны, хоць і без вышэйшай адукацыі, а перспектыў не праглядаецца. У райцэнтры можна мяняць працу хоць кожны год, «капейкай» будзе больш або менш. Цяпер самая распаўсюджаная зарплата для звычайных работнікаў і нават спецыялістаў у правінцыі 305-400 рублёў, не разбагацееш, калі не займаеш кіруючую пасаду, з'яўляешся паспяховым прадпрымальнікам або займаешся чым-небудзь паўлегальным.

Але займацца бізнесам многім не дадзена, у тым ліку і мне, а «хімічыць» не хачу, ды і не ўмею. Проста непрыемна хітрыць, выкручвацца, прыстасоўвацца, шукаць шчыліны ў законах. Перад начальствам спіну не гну і ў рот не зазіраю? На ражон не лезу, але, па меры магчымасці, правы свае адстойваю. А гэта кіраўніцтву не падабаецца. Не падабаюцца «моцна вумныя», патрэбныя пакорлівыя работнікі, якія будуць па пстрычцы пальца выконваць указанні, нават калі гэта парушае працоўнае заканадаўства. З-за таго, што я не такі, то разлічваць на прасоўванне па кар'ернай лесвіцы і павелічэнне зарплаты не даводзіцца.

### Спрабаваў вырвацца

Можна, вядома, і з «капейкавай» зарплаты адкладаць грошы, што я рабіў і раблю. Але ў гэту «заначку» час ад часу даводзілася залазіць і браць на рамонт у кватэры, на пакупку мэблі, узнікалі і непрадбачаныя выдаткі, калі даводзілася рамантаваць халадзільнік, тэлевізар, ноўтбук. Ды і інфляцыя з дэвальвацыяй у ранейшыя гады абясцэньвала назапашанні. Сабраць грошы на першапачатковы ўнёсак, каб можна было пачаць з дапамогай крэдыту будаваць жыллё, не атрымалася.

Гадоў дзесяць таму я спрабаваў памяняць штосьці ў жыцці, вырвацца з райцэнтра, дзе нізкія заробкі і няма перспектыў. Некаторы час працаваў у абласным цэнтры і жыў на найманай кватэры. За кватэру і камунальныя ішла палова зарплаты. Заставалася на харчаванне і дробныя выдаткі – прыкладна столькі, што і ў райцэнтры без найманай кватэры. А набыць жыллё ў абласным цэнтры складаней, чым у райцэнтры, і я вярнуўся дадому.

### Не хачу браць крэдыт, каб сабраць дзіця ў школу

Мне самому таго, што зарабляю, хапае. Я непатрабавальны, без шкодных звычак. Зразумеў, што пры такім становішчы лепш быць халасцяком. У маім разуменні, каб сям'я была паспяховай, акрамя ўзаемнай сімпатыі і ўзаемаразумення, патрэбны і пэўны матэрыяльны дастатак, каб не даводзілася эканоміць на самым неабходным, жыллё. Бо большасць сем'яў распадаюцца з-за жыллёвай і бытавой неўладкаванасці. А я не хачу эксперыментаваць, не хачу, каб мая патэнцыйная сям'я бадзялася па найманых кватэрах, не хачу, каб эканоміла кожную капейку, не хачу пладзіць галечу!



Ці варта адмаўляцца ад сям'і, калі не маеш жылля і дастаткова грошай? Паразважайце з аўтарам ліста для чытачоў «РГ».

> На маіх вачах распадаліся сем'і ў знаёмых, майго аднакласніка і яго жонку пазбавілі бацькоўскіх праў. Мне сумна, калі працуючыя людзі, якія маюць дзяцей, вымушаныя пазычаць 10-20 рублёў, у тым ліку ў мяне, каб «дацягнуць да зарплаты» ці сабраць дзяцей у школу.

У крамах горада я бачыў скрыні для ахвяраванняў з надпісам «Збяром дзіця ў школу». Гэта такая акцыя для небагатых і шматдзетных сем'яў. Некаторыя сем'і вымушаныя браць крэдыты ў банку, каб сабраць дзяцей да школы. Я не хачу жыць, калі ад адсутнасці перспектыў і немагчымасці даць дзецям неабходнае пачынаюць піць. Гэтая спроба адысці ад рэчаіснасці, «заглушыць» душэўны боль. Напэўна, у кожным шматкватэрным доме ёсць такія сем'і.

### Жыць у прымаках – не варыянт

Знаёмыя раяць знайсці жанчыну з кватэрай і жыць у яе. Гэты варыянт не разглядаю. Як правіла, жанчына з кватэрай мае дзяцей ад ранейшага ці ранейшых шлюбаў. Трэба браць адказнасць за выхаванне і ўтрыманне, па сутнасці, чужых дзяцей. Да таго ж, жыць «у прымаках» – не зусім правільна. Ледзь што, сварка, і жонка будзе папракаць, маўляў, у цябе самога няма ні кала, ні двара! І што сказаць у адказ? Крыць няма чым! А жыць з «сіндромам няўдачніка», на становішчы «беднага сваяка» цяжка маральна.

Гэта і штурхае да алкаголю, больш сварак і скандалаў, а ў рэшце да разводу і падзелу маёмасці. Толькі і дзяліць не будзе чаго! Мяркую па некалькіх сваіх знаёмых.

### Няма ўпэўненасці ў заўтрашнім дні

Прадбачу, што мне скажуць, маўляў, у савецкія часы таксама няпроста жыць было, аднак сем'і часцей ствараліся, нараджалася больш дзяцей, менш было разводаў. У той час, пры ўсіх мінусах савецкага ладу, у людзей была надзея на «светлую будучыню». На звычайную савецкую зарплату можна было, хай і проста, але жыць, кватэры дзяржава давала бясплатна. Мой бацька, адпрацаваўшы некалькі гадоў у будаўнічай арганізацыі, атрымаў двухпакаёвую кватэру, у якой я і цяпер жыву з маці.

Працоўных месцаў было дастаткова. Можна было ўладкавацца на завод, атрымаць інтэрнат, стаць у чаргу на кватэру. Такім чынам абзаваліся жыллём мае сваякі. А цяпер няма ўпэўненасці ў заўтрашнім дні. Сёння ты працуеш, бярэш крэдыт у банку на будаўніцтва жылля, а праз годдва можна папоўніць шэрагі «дармаедаў». Вось і складай планы!

### Халасцякоў становіцца ўсё больш

Мне кажуць, што ў старасці і шклянку вады не будзе каму падаць. І ў матэрыяльным плане ніхто не дапаможа, раз дзяцей няма.

> Але ў тым і справа, цяпер хутчэй бацькі-пенсіянеры вымушаныя дапамагаць дарослым дзецям і ўнукам.

У вёсцы ўвогуле сем'ямі жывуць на пенсіі бацькоў-пенсіянераў, бо іх пенсіі часцей вышэй, чым зарплаты дзяцей і ўнукаў, якія працуюць на сельгаспрадпрыемствах. Да старасці яшчэ трэба дажыць, дацягнуць да новага пенсійнага ўзросту. Мой бацька і да старога не дажыў, як многія іншыя мужчыны.

Мне могуць параіць: бяры прыклад з паспяховых сем'яў. Так, ёсць і такія сем'і, дзе муж і жонка рэалізавалі патэнцыял, маюць дастатак, сваё жыллё, ёсць паразуменне і ўзаемная сімпатыя. Але ў тым і справа, што ў адных атрымліваецца пабудаваць паспяховую сям'ю, а ў іншых не, як бы ні стараліся. На жаль, але такіх халасцякоў, як я, становіцца ўсё больш і больш. І гэта яшчэ не самы горшы варыянт. Горш, калі сем'і распадаюцца, пазбаўляюць бацькоўскіх праваў, дзяцей аддаюць у прыёмныя сем'і, а былыя бацькі співаюцца і дэградуюць.

**А што думаеце вы, паважаныя чытачы? Што лепш: заставацца халасцяком ці спрабаваць ствараць сям'ю, не маючы дастаткова сродкаў? З чым згодныя са мной, а з чым не? Раскажыце свае гісторыі. Таксама хацелася б ведаць, як вы вырашалі жыллёвае пытанне».**

Калі вы хацелі б расказаць сваю гісторыю ці пракаментаваць гэты артыкул, дасылайце ліст на электронную пошту regionnews@rh.by.

# «Малпа ўкусіла мяне за палец»

## Маладзечанка расказала пра непрыемныя моманты падчас падарожжа

МАЛАДЗЕЧНА

**Працягваем серыю публікацый пра падарожжа Ганны Мажуць у В'етнам. У гэтым нумары раскажам пра асаблівасці в'етнамскага жыцця.**

Працоўную візу Ганне рабілі на тры месяцы, кантракт быў паўгадавы. Візу спатрэбілася абнавіць, і дзяўчына на тыдзень паляцела ў сталіцу Малайзіі – Куала-Лумпур.

Па словах гераіні, гэта мусульманская краіна выглядае як Нью-Ёрк, толькі з пальмамі. Да бляску чысты горад, «каменныя джунглі» з вялікім паркам і сучаснай архітэктурай. Ёсць падземнае і надземнае метро, манарэйка. «Над галавой у цябе ўсё лётае, думаеш, божа, горад будучыні».

### Ледзь не захварэла на шаленства

Падчас паездкі Ганна наведала індуісцкі храм Бату Кейвс. Там некалькі пячор. У адной – статуі міфалагічных багоў, па другой ходзяць паўліны. У трэцяй жыве манах, які выконвае мясцовыя абрады. Усюды бегаюць малпы – гэта месца ў народзе называюць Храмам Малпаў. Жывёлы забіраюць у людзей ваду і яду.

– Набыла статуэтку індуісцкага бога Ганешы, яе запакавалі. Іду і адчуваю – пакет за нешта зачапіўся. Гляджу, малпа трымае. Кажу «аддай, маё», ёй усё роўна. Скача мне на галаву яшчэ адна малпа. Пакет ужо раздзёрты, статуэтку ў каробцы ў руцэ трымаю. Жывёла пачынае вырываць з рукі. Падбягае трэцяя малпа, чапляецца за нагу. Размаўляю ўжо з усімі жывёламі. Разумею, паехала адна, дапамагчы няма каму, натоўп здымае відэа здарэння.

Чарговая малпа кінулася Ганне на руку. Ганешу яна трымала ўжо без упакоўкі. Малпа ўкусіла дзяўчыну за палец, каб тая адпусціла. Усе жывёлы адразу кінуліся на дрэва, каб паглядзець, што скрала сяброўка.

– У мяне кроў льецца, адначасова паліваю руку вадой і здымаю зладзеек на відэа. Малпа зразумела, што гэта не ежа, скінула з дрэва. Я падняла. Але малпа заўважыла, што я зноў трымаю нешта ў руках, скочыла ўніз. І вось бягу ад яе і разумею, што малпа хутчэй бяжыць. Кінула ваду, каб адцягнуць увагу.

Цэлы дзень Ганна гуляла. Увечары ля адміністрацыйнай стойкі ў гатэлі апрацавала руку. Супрацоўнік здзівіўся, чаму дзяўчына не звярнулася па медыцынскую дапамогу. А калі шаленства?

Прышчэпка ад яго каштавала 150 долараў. Грошай не было, і назаўтра Ганна ехала ў В'етнам.

Страхавая доўга не магла знайсці бальніцу, якая б прымала аплату з іх рахунка. Ноччу дзяўчына пайшла ў бальніцу ў кітайскім квартале, доктар прапісаў антыбіётыкі, сказаў, што вакцыну рабіць позна. Няма сімптомаў – лячыцца не трэба.

Пасля здарэння ў Ганны на тры месяцы абвастрыліся хранічныя хваробы, але яна працягвала працаваць. Страхоўка пакрыла расходы за выпадак з малпай, аплаціла першы візіт да доктара. Але «хроніку» Ганна лячыла за свой кошт.

### Медыцына ўсюды платная

Медыцына ў В'етнаме платная. Таму па кансультацыю ходзяць у аптэкі. Не прадаюць таблеткі ва ўпакоўцы – паштучна кладуць у пакет. Так прыносілі Ганне таблеткі, калі яна захварэла. Не ведала нават, што прымае. Таму калі ездзіла ў бальніцу, прасіла квіток з назвамі на англійскай, каб паглядзець лекі ў інтэрнэце.

– Там антыбіётыкі ядуць, як цукеркі. Па пяць-шэсць відаў таблетак прапісваюць прымаць адначасова. Мне трохмесячны курс церпінкода назначылі, у аснове якога апіят – наркатычнае рэчыва. Няма спрэяў для горла. Палошчуць рот мясцовымі травамі і каранямі, я ў іх не разбіраюся. Ад кашлю папулярныя ледзяшы.

### Ці праўда, што в'етнамцы ядуць сабак

Ежа ў жыхароў В'етнама таксама адрозніваецца. Набыць прадукты можна ў супермаркетах. Часцей там закупляюцца тыя, хто трымае маленькія крамы. Шмат яды прадаюць «з зямлі». Рынак – усюды на вуліцах, у пераходах, ля стадыёнаў. У кафэ і супермаркетах выстаўленыя цэны, у крамах і на вулічных прадуктах іх няма.

Прадукты на рынках Ганна амаль не набывала – перашкаджаў моўны бар'ер. З в'етнамцамі заўсёды трэба таргавацца.

– Набываеш у адным месцы звязку бананаў за рубель, праз тыдзень яна каштуе два, потым тры, незразумела. Набыла сонечныя акуляры за восем рублёў, якія першапачаткова каштавалі трыццаць. Для беласкурых людзей цэны адразу ўзлятаюць.



Малпы ў Малайзіі пачуваюцца вельмі свабодна.

**Па словах дзяўчыны, танней есці ў кафэ, чым гатаваць дома. Талерка супу ці лапшы з гароднінай і мясам каштуе два з паловай рублі. Порцыі ў тры разы большыя за нашы.**




Індуісцкі храм Бату Кейвс, Малайзія.

У меню кафэ Ганна сустракала морапрадукты, слімакоў, горных коз, змей, катоў, сабак і нават лапкі пеўняў. У апошніх в'етнамцы высока цэняць лапкі і гузку. Далікатэс – яйка качкі з зародкам унутры.

– Спачатку не зразумела, што гэта мёртвая качка, па смаку – звычайнае яйка. Толькі потым даведалася. Каштаваць кошак і сабак пакуль маральна не гатовая.

Для ежы в'етнамцы разводзяць спецыяльную пароду сабак, ядуць толькі маладых.

### Падчас абеду сядзяць на дыванах

За сталом в'етнамцы ядуць толькі ў прыдарожных кафэ ці рэстаранах. У кафэ вельмі нізкія крэслы і сталы.

Дома мясцовыя жыхары падчас абеду сядзяць на бамбукавых дыванах. На адным – мужчыны. Яны могуць піць і курыць з вялікіх бонгаў (спецыяльная прылада для курэння) – цыгарэты не ў ходзе. На другім – жанчыны з дзецьмі.

Жанчыны не кураць зусім. Ганна расказала, што з ёй месяц жыла дзяўчына з Галандыі, якая спрабавала знайсці цыгарэты. Глядзелі, як на ненармальную.

### Калі табе 27, замуж не выйдзеш

– Знаёмая жалілася на в'етнамскіх хлопцаў, яны хочуць усё кантраляваць. Кажа, як добра, што замужам за амерыканцам, нармальнага мужчыну знайшла.

**Большасць мясцовых упэўненыя: калі дзяўчыне споўнілася 27 гадоў, а яна не замужам, то добрага мужа не знойдзе. Ствараць сям'ю з маладых гадоў – даўняя традыцыя В'етнама.**

Усе суседзі будуць цікавіцца ў бацькоў, чаму дачка не замужам. «Грамадства вельмі ціснe. Хлопцы казалі, што на другім спатканні дзяўчына пытаецца, калі яе пад вянец павядуць. Маўляў, я цябе пачакаю, колькі табе трэба, год, два, мне яшчэ 24, магу. Але ў 26 прыцісну да сценкі».

Па словах Ганны, у В'етнаме ўвогуле нельга жыць з мужчынам да шлюбу. Але палова з іх адбываецца «па залёце».

– Мне расказвалі пра жудасную традыцыю, якая існуе ў аддаленых паўночных вёсках. Першым у сям'і павінны нарадзіцца хлопчык, калі дзяўчынка – робяць аборт. Але і сярод сваіх знаёмых у Хайфоне я сустрэла толькі дзве сям'і, дзе першай была дзяўчынка.

**Таццяна КАСЬЯН.**
**Фота забяспечаныя Ганнай МАЖУЦЬ.**

*Працяг чытайце ў наступных нумарах.*

# Простыя спосабы пазбавіцца ад «хваробы цывілізацыі»

**Гіпадынамія, якую яшчэ называюць «хваробай цывілізацыі», – гэта абмежаванне рухальнай актыўнасці, маларухомы лад жыцця.**

Калі ў вас «сядзячая» праца, перамяшчаецеся часцей на аўтамабілі, а вольны час праводзіце перад тэлевізарам ці з гаджэтамі, то гэты артыкул спецыяльна для вас.

Вядома, ідэальны варыянт рухальнай актыўнасці – рэгулярныя і паўнавартасныя заняткі якім-небудзь відам спорту. Але ў нас ва ўсіх знойдзецца мноства ўважлівых (і яшчэ больш няўважлівых) прычын, каб гэтага не рабіць. Непадрыхтаванаму арганізму складана пераадолець ляноту і перабрацца з любімай канапы ў менш утульнае месца. Асабліва ў стане восеньскага суму. Я прапаную плаўна прывучаць цела да фізічнай нагрузкі і пачаць з простага – звычайнай прагулкі!

Хада – самы ўніверсальны і даступны спосаб руху, які падыдзе для людзей любога ўзросту і любога ўзроўню фізічнай падрыхтоўкі. А колькі ад яе карысці! Пры хадзе ідзе добрая нагрузка на мышцы, іх задзейнічана да 200. Гэта актывізуе працу ўсіх органаў і сістэм арганізма.

Тэмпература цела пачынае павышацца, што паляпшае крывацёк і кровазабеспячэнне ўсіх органаў, лепш праходзяць абменныя працэсы, павышаюцца ахоўныя сілы – імунітэт. Такім чынам, дзякуючы руху нарошчваецца жыццёвая сіла.

Паспрабуйце крыху раней выйсці з дому на працу, прайдзіце ўвесь шлях або частку пешшу. Хада павінна быць інтэнсіўнай, але не ў цяжар. Адчуйце, як кроў хутчэй бяжыць па целе, разганяючы прыемнае цяпло. Вы самі павінны адчуць аптымальны і прымальны для арганізма тэмп.

Удыхніце ранішняе халаднаватае паветра. Паназірайце, як змяняецца прырода ў міжсезонне, можна застаць і сонечныя прамяні, і шызы іней на траве. Надзеньце зручны абутак, апраніце больш цёплае адзенне, і восень раскрые вам сваё хараство. Можна паслухаць аўдыёкніжку, радыё, любімую музыку або ўрокі замежнай мовы. Такія прагулкі бадзёраць лепш за моцную каву, паляпшаюць агульнае самаадчуванне, дораць пачуццё лёгкасці, павышаюць працаздольнасць.

На працы, у гандлёвых цэнтрах, дома старайцеся не карыстацца ліфтам. Ці ведалі вы, што хада пешшу на дзявяты паверх па сваёй нагрузцы прыраўноўваецца да 10-хвілінnай прабежкі на беговай дарожцы?

**А як прыемна пагуляць на свежым паветры перад сном, прывесці ў парадак думкі, запланаваць справы на заўтра.**

Выдатна, калі ў вас ёсць дамашнія гадаванцы, якіх неабходна выгульваць. Рабіце гэта часцей, даўжэй і больш актыўна. Пастаўцеся да справы як да магчымасці палепшыць самаадчуванне, а не як да нуднага абавязку.

А можа, вы маеце час, каб далучыцца да сталых людзей, што бадзёра крочаць па парку з адмысловымі палачкамі? Рабіце гэта неадкладна. З такімі спадарожнікамі можна не толькі асвоіць тонкасці скандынаўскай хады, але і кампенсаваць недахоп зносін.

Абавязкова пачніце часцей хадзіць пешшу, вам спадабаецца! А ўбачыўшы прыемныя змены ў сваім самаадчуванні, захочаце займацца спортам усур'ёз і надоўга.

**Кацярына ЯРАВІКОВА,**
**доктар-гігіеніст аддзялення гігіены працы Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.**





Фота забяспечанае Ігарам АРАБЕЕМ.

Гуляць у міні-футбол маладзечанцы прыходзілі пасля работы.

# Спаборнічалі каманды калектываў фізічнай культуры

МАЛАДЗЕЧНА

**Амаль усю другую палову лета адбываліся гульні 12 турніру па міні-футболе сярод футбольных камандаў, якія прадстаўлялі калектывы фізічнай культуры Маладзечаншчыны.**

Ініцыятарамі спаборніцтваў, прысвечаных памяці воіна-інтэрнацыяналіста **Мікалая Палухі**, выступілі дзве грамадскія арганізацыі – Беларускі саюз ветэранаў вайны ў Афганістане і Беларускае аб'яднанне ветэранаў.

– Спаборніцтвы працягваліся доўга, амаль усю другую палову лета на базе маладзечанскага спартыўна-забаўляльнага цэнтра, – кажа адзін з арганізатараў **Ігар Арабей**.

**– Дарослыя мужчыны, чый узрост у сярэднім 35 год, гулялі добраахвотна, вечарамі пасля работы. Усяго было 15 камандаў.**

Фінальныя гульні правялі на стадыёне ў Чысці. Першай стала каманда «Адрынутыя», другой – «Пуцеец», на трэцім месцы – «Ветэраны». Усе каманды-пераможцы – прадстаўнікі горада.

Адзначылі таксама некаторых футбалістаў у пэўных намінацыях. Лепшым варатаром стаў **Сяргей Капцюг** з «Пуцейца», лепшым абаронцам – **Дзяніс Жаўнятовіч** з «Ветэранаў», лепшым бамбардзірам – **Дзмітры Вышынскі** з гэтай жа каманды.

Як лепшага нападаючага адзначылі **Антона Кучара** з «Лакаматыва», як лепшага гульца – **Ігара Талькоўскага** з «Адрынутых». **Дзяніса Ціткова** з гэтай каманды палічылі лепшым па сістэме Гол+Пас.

Лепшым асістэнтам назвалі **Паўла Шчарбачэню** з каманды маладзечанскай вайсковай часці.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

● ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## «Маладзечна» саступіла «Вікторыі»

МАЛАДЗЕЧНА

Каманда прымала гасцей з Мар'інай Горкі на дамашнім стадыёне.

Гульня скончылася з лікам 2:3. У бок «Вікторыі» мячы забілі **Антон Талстой** і **Алег Страхановіч**.

Каманда займае 12-ы радок турнірнай табліцы.

● ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА

## «Ашмяны» абыгралі Івацэвічы

АШМЯНЫ

15 верасня ашмянцы гулялі на дамашнім стадыёне.

Госці прайгралі з лікам 1:0.

Гол на 14-й хвіліне забіў **Аляксандр Паляшчук**. Каманда займае трэці радок турнірнай табліцы і адстае на дзесяць ачкоў ад папярэдніка, брэсцкага «Руха».

## «Чысць» згуляла ўнічыю

МАЛАДЗЕЧНА

У дамашняй гульні 15 верасня каманда выйшла з лікам 2:2.

Чысцінцы прымалі мікашэвіцкі «Граніт». Галы забілі **Сяргей Мельнік** і **Васіль Соўпель**.

| | Команды | И | В | Н | П | М | О |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Энергетик-БГУ (Минск) | 21 | 16 | 3 | 2 | 47-14 | **51** |
| 2 | Славия (Мозырь) | 20 | 15 | 5 | 0 | 47-7 | **50** |
| 3 | Белшина (Бобруйск) | 20 | 14 | 4 | 2 | 40-13 | **46** |
| 4 | Лида | 21 | 11 | 4 | 6 | 28-14 | **37** |
| 5 | Слоним-2017 | 21 | 7 | 6 | 8 | 28-28 | **27** |
| 6 | Гранит (Микашевичи) | 21 | 6 | 9 | 6 | 20-25 | **27** |
| 7 | Нафтан (Новополоцк) | 20 | 6 | 8 | 6 | 20-17 | **26** |
| 8 | Локомотив (Гомель) | 19 | 6 | 8 | 5 | 27-16 | **26** |
| 9 | Химик (Светлогорск) | 20 | 7 | 4 | 9 | 23-25 | **25** |
| 10 | ЮАС (Житковичи) | 20 | 5 | 7 | 8 | 16-24 | **22** |
| 11 | Сморгонь | 20 | 5 | 7 | 8 | 15-33 | **22** |
| 12 | Орша | 21 | 5 | 3 | 13 | 23-38 | **18** |
| 13 | Волна (Пинск) | 21 | 4 | 5 | 12 | 18-41 | **17** |
| 14 | Барановичи | 21 | 2 | 7 | 12 | 10-24 | **13** |
| 15 | Чисть | 20 | 1 | 6 | 13 | 21-64 | **9** |

Турнірная табліца першай лігі.

Пасля розыгрышу 22 тура «Чысць» па-ранейшаму займае апошні, 15-ы, радок турнірнай табліцы і мае дзевяць ачкоў.

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Шырокая паласа з каляровага сукна, нашытая на форменныя штаны ўздоўж бакавога шва.
4. Стужка з марлі або іншай тканіны (звычайна белай), якая ўжываецца для перавязкі ран, пераломаў.
5. Дамашні слуга пры панах; слуга ў гасцініцы, рэстаране.
6. Драпежная начная птушка атрада соў, у якой вялікая круглая галава, вялікія вочы і кароткая загнутая дзюба.
9. Самая папулярная назва валюты ў свеце.
11. Краіна-лідар па спажыванні соі.
12. Адтуліна на краі більярднага стала, у якую падае шар.
13. Непрыемны, агідны пах.
14. Месца ўтрымання ваеннапалонных ці зняволеных.
15. Наталля Арсеннева: «І паволі, паволі чырвоным пажарам Занялося чырвоным пажарам усё: І жыты, і кляноў верхавіны, і хмары, Й нат будзённае, шэрае ў шэрым, …».
16. У гэтым мястэчку нашага рэгіёна адбываліся наступныя падзеі, пра якія сучаснік пісаў так: «Смерць Сымона Буднага была жудаснай і агіднай. Ужо за два гады да смерці ён зусім звар'яцеў, не хацеў нічога чуць і ведаць пра Бога і Хрыста. Нават за тры дні да смерці раздаваўся яго страшэнны крык. А калі цівун пераконваў, ён зламіў яго руку і сказаў: «Клянуся, я не ведаю ніякага Бога і ніякага Хрыста».
20. Аснова, тое галоўнае, на чым грунтуецца штосьці.
22. Акружэнне горада, крэпасці, войск і інш. войскамі праціўніка з мэтай адрэзаць іх ад навакольнага свету і прымусіць здацца.
24. Група злачынцаў, разбойнікаў; контррэвалюцыйны ўзброены атрад.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Малюск, які мае ракавіну і рухаецца вельмі марудна.
3. У час залатой ліхарадкі на Алясцы гэты прадукт цаніўся нароўні з золатам. Сярод золаташукальнікаў распаўсюдзілася цынга, а яна была добрым сродкам ад хваробы.
7. Прасоленая або правэнджаная маладая свініна асобага прыгатавання.
8. У Казані амаль усе яны чырвоныя.
10. Слабы вецер, які дзьме днём з мора на бераг, а ноччу – з берага на мора.
12. Парода паўночных сабак, якія выкарыстоўваюцца для палявання, язды, аховы статкаў аленяў.
17. Кастрыраваны наглядчык за жанчынамі ў гарэме.
18. Старажытнае скандынаўскае і ірландскае народнае гераічнае сказанне.
19. Гэты метал не выклікае алергіі.
21. Яно ў пакоі, а пакой у ім.
22. Падабраныя і прыгожа складзеныя ў пучок кветкі.
23. Прадукт няпоўнага згарання паліва, які чорным налётам асядае ў комінах.

## ● ГАРАСКОП 21-27 ВЕРАСНЯ



**АВЕН.** Каб дасягнуць пастаўленых мэт, вам спатрэбіцца нямала сіл. Можа, варта адмовіцца ад задумы, пакуль не позна. Але калі вы прыйшлі да адназначнай высновы – дзейнічаць, то адважна ідзіце наперад. Дадатковы зарад энергіі дазволіць вам пераадолець усе перашкоды.



**ЦЯЛЕЦ.** Праявіце мудрасць, не лезце на ражон. Вас будуць разрываць сумневы. Вазьміце сабе права самастойна вырашаць, што для вас важнае і патрэбнае, тады вы зможаце дасягнуць поспеху ў абранай справе.



**БЛІЗНЯТЫ.** Дні спрыяльныя для вас. Вы можаце раздаваць каманды налева і направа. І самае галоўнае, вас будуць слухацца. Пры належным старанні вы зможаце надоўга стварыць вакол сябе арэол важнай асобы, якая ведае, што і як трэба рабіць, і спрачацца з якой абсалютна бессэнсоўна.



**РАК.** Вы стаміліся, вам трэба адпачынак. Не бярыце на сябе шмат, бо гэта не лепшым чынам адбіваецца на вашым здароўі.



**ЛЕЎ.** Праявіце добразычлівасць да іншых людзей, нават калі яны ніжэй за вас па статусе, гэта не адмяняе іх значнасці, калі не для вас, то для навакольнага свету ў цэлым. Займіцеся вывучэннем навакольных ці самога сябе, гэта дазволіць вам лепш разбірацца ў людзях, а таксама ў выбары стратэгіі пры зносінах з імі.



**ДЗЕВА.** Вас акружаюць дробязныя людзі, і гэты імпульс перадаецца вам. У выніку большую частку сваіх сіл вы траціце на бескарысную валтузню, выніку ад якой нуль. Навядзіце парадак у адносінах паміж людзьмі і прыміце канчатковае рашэнне.



**ШАЛІ.** Калі вы жадаеце прыўнесці ў сваё жыццё новае пачуццё і пазнаёміцца з чалавекам, які аблегчыць вашу адзіноту, то прыйдзецца змяніць сваю стратэгію. Неабходна пачаць усё з чыстага ліста. Усё пакінуць у мінулым. Аддайцеся на волю выпадку, хай лёс сам вядзе вас. Паспрабуйце ні ў што не ўмешвацца, і самі ўбачыце, як спрыяльна складзецца сітуацыя для вас.



**СКАРПІЁН.** Дазвольце сабе адпачыць, не загружайце галаву ніякімі планамі, важнымі рашэннямі і іншай мітуснёй. Гэта дазволіць вам інакш зірнуць на некаторыя праблемы і лёгка знайсці выйсце з іх.



**СТРАЛЕЦ.** У любых дзеяннях захоўвайце лёгкасць. Усё, што павінна вырашыцца, будзе вырашаца лёгка, само ідучы да вас у рукі. Ваша задача – не перашкаджаць таму, што павінна само прыйсці да вас, а гэтак жа і сысці.



**КАЗЯРОГ.** Каб жыццё была спакойным, была ўтульнасць у доме, вам неабходны парадак у справах і стабільнасць у матэрыяльным плане. Стабільнае – гэта гарманічнае спалучэнне расходаў і даходаў. Цяпер фінансавы стан дасягне менавіта такіх суадносін, што дазволіць вам здабыць мір у душы і сям'і і радавацца жыццю.



**ВАДАЛЕЙ.** Не будзьце такія агрэсіўныя, кантралюйце сябе, каб не прыўнесці разлад у адносіны з навакольнымі і з самымі блізкімі.



**РЫБЫ.** Вам усё ж варта падумаць пра свае погляды на свет і стаўленне да навакольных. Магчыма, прыйшла пара іх мяняць па сваім жаданні, а не інакш.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | 2 | | | | | | | 9 |
| | 4 | 6 | | 9 | | | | |
| | | | | 2 | | | 1 | 3 |
| 2 | | 3 | | | | | 7 | |
| | 1 | | | | 3 | 5 | 8 | |
| | 8 | 7 | | 5 | | | | 4 |
| | 6 | | | | 5 | 2 | | |
| 1 | | 4 | 9 | | | | | 5 |
| | | | 1 | 4 | | | | 8 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

## Адказы на крыжаванку з №37

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Чарапаха. 3. Космас. 4. Алагізм. 5. Каларыт. 9. Соль. 11. Агарод. 12. Дадатак. 13. Ажына. 14. Абраз. 18. Дзейнік. 22. Увага. 23. Прыгажосць. 24. Ануча. 25. Акавіта. 26. Дакор.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Палессе. 5. Камель. 6. Бездань. 7. Уладар. 8. Доўг. 10. Удар. 15. Рубік. 16. Дазатар. 17. Калега. 19. Турма. 20. Дамавік. 21. Цягнік. 27. Убор. 28. Абдаць. 29. Кайзер.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017


● НАДВОР'Е

## 22 верасня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +14 | | +16 | | +9 | | +7 | |
| | +26 | | +13 | | +16 | | +13 | |
| | 743 | ↑ 5 | 738 | ↘ 7 | 738 | → 8 | 741 | ↑ 10 |
| Вільня | +15 | | +16 | | +8 | | +6 | |
| | +26 | | +12 | | +13 | | +12 | |
| | 749 | ↑ 10 | 746 | ↗ 3 | 744 | → 6 | 726 | ↑ 7 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |

Усход 6.58
Захад 19.15
Даўжыня дня 12.27

Усход –
Захад –
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

НАРАЧ

Мінімальная тэмпература +1°С у 2012 годзе
Максімальная тэмпература +23,3°С у 1982 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 9,3 мм у 1978 годзе
Паводле meteoinfo.by.

## Чытайце праз тыдзень

● **Фаер-шоу, выступленні велаэкстрэмалаў і скейтараў, песні і танцы, тэатр моды і дранікі. Чаго толькі не запланавалі арганізатары першага экафэсту «Выбірай і рухайся» ў Вілейцы! Лепш, канешне, туды трапіць. Або пачытаць рэпартаж у наступным нумары.**

## Верасень – час грыбоў і падпіскі на «Рэгіянальную газету»



### Падпісацца на «РГ» можна:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Рэгіструемся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем «Афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі», выбіраем «Алфавітны». Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару «Р», справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – «Рэгіянальная газета»

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

## Батутыст з Вілейкі едзе на III юнацкія Алімпійскія гульні ў Аргенціну

7 верасня Нацыянальны алімпійскі камітэт Рэспублікі Беларусь зацвердзіў склад дэлегацыі на III юнацкія Алімпійскія гульні ў Аргенціну. У спісе – вілейчанін **Іван Літвіновіч**.

Гульні праявдуць у Буэнас-Айрасе ад 6 да 18 кастрычніка. Ад Беларусі ў дэлегацыю ўвайшло 37 спартсменаў, а таксама іх трэнеры па лёгкай атлетыцы, стральбе з лука, веславанні, мастацкай гімнастыцы, спартыўнай гімнастыцы і інш.

Іван Літвіновіч і яго трэнер **Вольга Уласава** прадстаўляць Беларусь у скачках на батуце.

Нагадаем, што ў батутыста з Вілейкі ўжо шмат



Фота забяспечана Таццянай Літвіновіч

**Іван Літвіновіч падчас чэмпіянату Еўропы ў Баку.**

дасягненняў. Сёлета ў красавіку ён стаў чэмпіёнам Еўропы на батуце сярод юніёраў.

У спорт Івана прывяла мама – трэнер па акрабатыцы **Таццяна Літвіновіч**.

**Паводле Нацыянальнага алімпійскага камітэта.**



● ПРОСТА АНЕКДОТ

***

Адэса, стары дворык. Рабаўнікі грукаюць у дзверы.

– Хто там?

– Не бойцеся, не госці.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## Чаго вам не хапае ці што злуе ў горадзе?



**Настасся Мхітаран, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**

– Мне, як маме з трыма дзецьмі, не хапае пакояў для мамы з дзіцем, дзе можна пакарміць дзіця, пераапрануць. У Еўропе яны ёсць амаль усюды. У Мінску пару разоў бачыла. Можна было б і ў нас зрабіць.



**Ігар Радзівілка, іграе ў Валожынскім духавым аркестры, Валожын:**

– Прыводзяць у шаленства дарогі. І людзі, якія кідаюць бычкі, не дайшоўшы да сметніцы. Прыезджыя кажуць, краіна чыстая, дык рабіце яе такой і не псуйце рэпутацыю. Самім жа прыемна праехаць ці прайсціся па зялёных мясцінах.



**Руслан Стасяловіч, вальшчык лесу, Маладзечна:**

– У цэлым, горад у нас прыгожы, дагледжаны і чысты. Вось паставілі б атракцыёны добрыя, каб дзяцей можна было адвесці ды і самому на якіх горках пакатацца. А яшчэ на месце пуцеправодзе дрэнныя дарогі. Гэта мінус горада, бо мост – твар горада ў нас.



**Таццяна Шабан, выкладчыца, у дэкрэтным адпачынку, Маладзечна:**

– Абслугоўванне ва ўстановах уганяе ў дэпрэсію і аптымістаў, чэргі і бясконцыя хаджэнні. Мала дзіцячых пляцовак, пясочніц, з якіх жывёлы не робяць туалет. У навабудоўлях адны паркоўкі. Шпацыр з каляскай – трэніроўка, спускаў або няма, або стромкія.



**Вольга Вялікая, спецыяліст упраўлення будаўніча-мантажных работ, Астравец:**

– Няма кафэ для ласуноў, куды б хацелася зайсці на пах кавы і шакаладу. Малы выбар стыльнага якаснага абутку ў крамах. Кароткая працаздольнасць працоўнага часу крам нехарчовых тавараў.



**Дзмітры Банцарэвіч, кіроўца, Маладзечна:**

– Нічога не раздражняе, я аптыміст. Не хапае месцаў, дзе пасля дзесяці вечара можна паесці. Макдональдса якога – надакучыла ночу ў Мінск ездзіць.



**Марта Руновіч, выхавальніца ў дзіцячым садку, Маладзечна:**

– Больш за ўсё не падабаецца стан дарог. Адзін пуцеправод і дваровыя тэрыторыі чаго вартыя…

**Падрыхтавала Таццяна КАСЬЯН.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№38 (1221) 21.09.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РолПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 791. Падпісана ў друк у 9.00 20.09.2018.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты »Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.